# НАВІНЫ



Акадэміі навук Беларусі

*Заснавана ў кастрычніку 1979 года* • *№ 23(752)* • *17 чэрвеня 1994 г.* • *Цана 25 руб.*


## *Станіслаў Шушкевіч:*

# «ВЕРУ Ў БЕЛАРУСЬ — СВАБОДНУЮ, ЗАМОЖНУЮ ЕЎРАПЕЙСКУЮ ДЗЯРЖАВУ»

*Эксклюзіўнае інтэрв'ю для «Навін АНБ»*

***— Калі Вы пераможаце на выбарах, ці будзе «пры Вас» Дэпартамент па навуцы (па прыкладу Украіны і Расіі) альбо Саветнік па навуцы (як у ЗША)?***

— Мая праграма прадугледжвае істотнае скарачэнне апарату кіравання і, асабліва, усялякіх прамежкавых дэпартаментаў і структур. Прэзідэнт Беларусі, як кіраўнік выканаўчай улады, будзе апірацца на апарат міністэрстваў. Пытанні навукі будуць сканцэнтраваны ў Міністэрстве універсітэтаў, навук і тэхналогій, і, вядома, галоўным маім саветнікам па навуцы будзе міністр. Зазначу, што такая ж схема будзе і ў іншых галінах. Ніхто не павінен камандаваць міністрамі. Міністры прымаюць рашэнні і адказваюць. Прэмьер-міністр і тры-чатыры яго намеснікі з ліку міністраў каардынуюць працу і разам з Прэзідэнтам выпрацоўваюць стратэгію і тактыку.

***— Па якіх прынцыпах, як Вы лічыце, трэба вылучаць прыярытэтныя напрамкі развіцця беларускай навукі?***

— Так, у былым СССР фінансаваліся практычна ўсе напрамкі навукі. Мы павінны перайсці на прынцыпы фінансавання пры канцэнтрацыі рэсурсаў на строга абмежаваных накірунках. Як іх вызначыць? Неабходна адрозніваць фінансаванне ў рамках інвестыцыйнага працэсу і фінансаванне асобных адметных вучоных і іх груп. Першае рэалізуецца ў рамках дзяржаўных альбо кааперацыйных праграм. Другое — у выглядзе грантаў. Але ў абодвух выпадках галоўнае — аб'ектыўнасць ацэнкі напрамку і ўзроўню. А для гэтага трэба мець альтэрнатыўныя фонды, альтэрнатыўныя крыніцы фінансавання, абнаўляемыя экспертныя саветы (магчыма, на выбарчай аснове). Мне здаецца, што нам бліжэй за ўсё французскі вопыт, дзе існуе аналаг нашай акадэміі — Нацыянальны цэнтр навуковых даследаванняў, і дзе адпрацаваны механізмы фінансавання, як навуковых напрамкаў, так і ўстаноў, і, галоўнае, нядрэнна працуюць механізмы змены структуры, ліквідацыі неэфектыўных навуковых арганізацый. Як і ў эканоміцы, галоўны рухавік навукі, асабліва прыкладной,— канкурэнцыя вучоных, ідэй. Фінансаванне павінны атрымліваць таленты і эфектыўна працуючыя групы. Прыярытэтны накірунак развіцця беларускай прыкладной навукі відавочны — зрабіць нашу прамысловасць канкурэнтаздольнай у свеце.

***— За кошт чаго Беларусь можа выйсці па якасці жыцця на ўзровень сучаснай цывілізацыі? Якія нашы галоўныя, яшчэ не ў поўнай меры выкарыстаныя фактары развіцця? У прыватнасці, цікава, як Вы бачыце больш эфектыўнае выкарыстанне інтэлектуальнага рэсурсу і геапалітычнага становішча рэспублікі (у цэнтры Еўропы)?***

— Мая праграма не толькі дэкларуе, што праз тры гады мы павінны забяспечыць дабрабыт народа, але і паказвае, як гэта зрабіць, якія рэсурсы выкарыстаць.

Так, галоўны наш рэсурс — адукаваны, працавіты народ Беларусі, і мы павінны даць магчымасць кожнаму ў поўнай меры выкарыстаць свой талент, сваю працавітасць на карысць сабе, сваёй сям'і, а ў выніку — на карысць Беларусі. Наша выратаванне — у хутчэйшай інтэграцыі ў сусветны падзел працы, у выхадзе на канкурэнтаздольную па сусветных мерках прадукцыю, бо ўжо сёння наш асноўны рынак — расійскі—фактычна нічым не адрозніваецца ад сусветнага, і нашы тавары павінны сапернічаць з таварамі з Кітая, Карэі, Японіі, ЗША. Выпускаць канкурэнтаздольныя тавары магчыма толькі дзякуючы сучасным тэхналогіям. Таму падтрымка эфектыўна працуючых вучоных павінна быць істотна павялічана. Але нашы вучоныя маглі б не толькі патрабаваць грошы, але і зарабляць іх для рэспублікі. Неабходна як мага хутчэй уключацца ў выкананне вядомых еўрапейскіх навуковых праграм, больш звяртацца ў міжнародныя навуковыя фонды. Мы маем вялікую колькасць матэматыкаў, праграмістаў, радыёэлектроншчыкаў, а прадстаўнікоў гэтых спецыяльнасцей нават у Еўропе не хапае. Таму мы павінны не купляць інфармацыйныя тэхналогіі, а прадаваць іх. І я ведаю шмат прыкладаў, калі нашы спецыялісты працуюць па заказах сусветна вядомых фірмаў. Неабходна спрыяць гэтаму працэсу ў інтарэсах рэспублікі. Далей, сёння ў нас адмоўнае сальда гандлю з Расіяй і як вынік — нізкі курс «зайчыка» да рубля. Нашы вучоныя маглі б зарабляць расійскія рублі, пераключыўшыся з былых расійскіх ваенных заказаў на заказы расійскіх камерцыйных фірмаў, банкаў, біржаў, прамысловых прадпрыемстваў.

Другі наш рэсурс — транзітны. Беларусь перасякаюць транспартныя, тэлефонныя, авіяцыйныя, нафтагазавыя і іншыя камунікацыі з Еўропы ў Расію, з Балтыі на Украіну. Хутка стварыўшы неабходную інфраструктуру, мы будзем мець вельмі добрыя грошы за нашу ролю камунікацыйнага, у шырокім сэнсе маста паміж гэтымі краінамі.

***— Якія «аргвывады» Вы зрабілі са свайго датэрміновага адыходу з галоўнага ў рэспубліцы паста? У Вас жа перад усімі іншымі прэтэндэнтамі (акрамя В. Кебіча, мабыць) перавага. Вы ўжо мелі магчымасць прааналізаваць свае памылкі, тады як у іншых прэтэндэнтаў гэта ў лепшым выпадку толькі наперадзе.***

— Раней існаваўшая канстытуцыя давала мне толькі права падпісваць калектыўна прынятыя рашэнні. У мяне былі тыя ж правы, што і ў старшыняў часоў Мазурава, Машэрава, нават імёны гэтых старшыняў народ часта не ведаў. Толькі цяжкай і карпатлівай працай удавалася правесці праз гэты Вярхоўны Савет сучасныя законы, артыкулы канстытуцыі. Ды і то ў большасці законаў наменклатура пакідала для сябе пралазы, і як толькі мы падышлі да прынцыповых пытанняў, як толькі мы з Шыркоўскім і Ягоравым хацелі перайсці ў наступ на карумпіраваную частку наменклатуры, дык яны адразу ж і выкарысталі сваю большасць.

Народ, магчыма, яшчэ не зусім разумее, што такое сцэментаваная за 70 гадоў, цесна павязаная сваімі інтарэсамі кланавая наменклатура. Таму галоўнае для новага прэзідэнта — не стаць яе заложнікам, разбурыць яе маналіт і стварыць умовы для прыходу да ўлады сумленных прафесіяналаў. Гэта цяжкая задача, але я ўпэўнены, што той вопыт, які атрымаў, урокі, што я зрабіў з памылак, пры той уладзе, якую мае па канстытуцыі прэзідэнт, дасць мне магчымасць вырашыць яе.

***— Ці ёсць у Вас свая дактрына развіцця Беларусі? Якія прынцыпы выкарыстоўваліся пры яе распрацоўцы?***

— Прэзідэнт выбіраецца на пяць гадоў і, вядома, яго хвалююць першачарговыя пытанні. Але без ведання перспектывы правільнае вырашэнне іх падвяргаецца выпадковасцям. Мая каманда пры распрацоўцы праграмы зыходзіла з канчатковай мэты: Беларусь — адкрытая дэмакратычная еўрапейская краіна з моцнай ліберальнай рыначнай эканомікай. Галоўная цяжкасць пры распрацоўцы праграмы — сінхранізацыя трох галоўных працэсаў рэфармавання: стварэнне недзяржаўнага сектара, стабілізацыя грашовай сістэмы, інтэграцыя ў сусветную эканоміку. У Інстытуце сістэмнага аналізу рыначнай эканомікі пад кіраўніцтвам праф. М. Кавалёва былі пралічаны на камп'ютэрах дзесяткі альтэрнатыўных варыянтаў і ў выніку — з матэматычнай дакладнасцю — абраны аптымальны, які пакладзены ў аснову прапаноўваемай намі макраэканамічнай палітыкі, нацыянальнай энергетычнай праграмы, праграмы падтрымкі экспарту, аграрнай і прамысловай палітыкі.

***— Хто Ваша каманда? Не абавязкова паіменна, а хоць бы «па спецыяльнасцях».***

— Я магу сказаць: гэта каманда маладых, сумленных прафесіяналаў самых розных спецыяльнасцей. Упэўнены, што калі мы пераможам на выбарах, гэтая каманда зможа зрабіць рашучыя крокі ў эканоміцы на карысць народа Беларусі. Я ўжо называў: прэм'ер С. С. Багданкевіч, генерал-палкоўнік Ягораў, эканамісты — народныя дэпутаты В. П. Аляміеў, А. В. Сасноў. Магу дадаць — народны дэпутат В. А. Сапронаў, прафесар БДУ М. М. Кавалёў, прафесар БДЭУ Лемяшэўскі. Я маю намер запрасіць займацца аграрнымі пытаннямі Дубко Аляксандра Іосіфавіча і Апацкага Аляксандра Мікалаевіча. Мы будзем апірацца на сумленныя і прафесіянальныя кадры сённяшніх дзяржаўных служачых, як на месцах, так і ў цэнтры. А такіх нямала, трэба даць толькі магчымасць ім працаваць на карысць справы, замест апаратных гульняў.

***— Цяпер навука ў рэспубліцы давездена да стану, калі ідзе яе амаль што неабарачальны распад. Ці будуць у яе шанцы ўстаць на ногі, калі Вы станеце прэзідэнтам?***

— Я думаю, што стан навукі адпавядае агульнаму стану эканомікі рэспублікі — сапраўды, ідзе распад прамысловасці, сельскай гаспадаркі. Фактычна вытворчасць скарацілася напалову. Таму навука будзе падымацца толькі сумесна з эканамічным ростам. Ажыўленне эканамічнай актыўнасці мы абяцаем праз тры гады. Як пратрымацца гэтыя тры гады навуцы? Дзе знайсці грошы? Спад вытворчасці скарачае падатковыя паступленні, у бюджэтнай казне няма грошай. А падаткі да таго ж трэба неадкладна зменшыць. Выхад толькі ў пераразмеркаванні бюджэту і больш эфектыўным яго выкарыстанні. У першую чаргу, можна павялічыць прыкладна да 2 працэнтаў ад бюджэту выдаткі на навуку. Далей трэба, каб усе грошы, выдаткаваныя на навуку, ішлі вучоным, а не чыноўнікам, якія нібыта займаюцца прагнозна-аналітычнай працай, але па прынцыпу «чего изволите?». Наступнае. Мы маем дамоўленасці і будзем спрыяць фінансаванню нашых вучоных з замежных фондаў. І апошняе — неабходна неадкладна узнавіць сувязі навукоўцаў краін СНД.

***— Ці маеце Вы свой пункт погляду на трансфармацыю адукацыі ў Беларусі? І на інтэграцыю навукі і адукацыі?***

— Я думаю, што з адукацыяй у галіне матэматыкі, фізікі, хіміі ў нас усё больш-менш у парадку і ніякіх рэвалюцый тут не трэба. Гуманітарная адукацыя патрабуе рэфармавання, прыдання ёй больш навуковага характару. Трэба захаваць бясплатную адукацыю і дзяржаўныя стыпендыі ў вну для таленавітай моладзі.

Сёння трэба не скарачаць, а павялічваць наборы ў вну. Гэта сусветная практыка — у гады крызісу павялічваць колькасць студэнтаў. Першае, статут студэнта лепш, чым статут беспрацоўнага, пры прыкладна аднолькавых выдатках. Другое, для выхаду з крызісу патрэбны высокакваліфікаваныя спецыялісты. І галоўнае — як усюды, так і ў адукацыі, павінна быць канкурэнцыя вну, спецыяльнасцей, кафедраў.

***— Якія Вашы адносіны да дабрачыннай дзейнасці Фонду Сораса і іншых падобных фондаў?***

— Усе ў Беларусі дабрачынныя фонды, у тым ліку і Фонд Сораса, дзейнічаюць на аснове сваіх статутаў, зацверджаных нашым Мінюстам. Так што дзейнасць іх адпавядае нашым законам. Чым больш будзе такіх фондаў, тым лепш будзе для вучоных. Мне здаецца, што ўжо маглі б і нашы прадпрымальнікі стварыць фонды для беларускіх навукоўцаў. Такія фонды спрыяюць сапраўднай аўтаноміі і незалежнасці вучоных. Што да «Фонду Сораса — Беларусь», то я лічу: яго дапамога абнаўленню гуманітарных навук, падтрымцы вучоных ва ўстанаўленні кантактаў, дапамога сучаснай літаратуры, вельмі і вельмі карысная. Мне прыемна, што Фонд Сораса падтрымлівае сапраўдных навукоўцаў, і я віншую нашых вядомых вучоных — паталагаанатама Д. М. Голуба і фізіка Ф. І. Фёдарава, стаўшых ганаровымі сорасаўскімі прафесарамі.

***— Якія Вашы жыццёвыя прынцыпы?***

— Люблю да ўсяго дайсці сам, і мне цікава займацца справай толькі тады, калі я яе разумею добра. Напрыклад, я спачатку не вельмі ахвотна займаўся пытаннямі эканомікі, пакуль не вывучыў літаратуру, не азнаёміўся з замежным вопытам, не падыскутаваў з дырэктарамі. І цяпер магу свабодна размаўляць на эканамічныя тэмы не толькі з гаспадарнікамі. Мой галоўны жыццёвы прынцып — паважаць прафесіяналаў. Я не люблю дыскутаваць, калі ці я, ці мой субяседнік дрэнна разумеюць сутнасць.

***— А Ваша крэда?***

— Веру, што Беларусь стане заможнай еўрапейскай дэмакратычнай дзяржавай.

**Гутарку вёў Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ.**

# Прыгоды даўжынёю ў жыццё

«ЗНАЕМСТВА З ДЫЯНЕТЫКАЙ усяліла ў мяне надзею, што ўсё негатыўнае, што калісьці было ў маім жыцці і пакінула на ім свой цёмны адбітак, можа быць сцёртае з маёй падсвядомасці або, прынамсі, не прыгнятаць мяне больш. Думаю, што дыянетыка дапаможа нам стаць больш шчаслівымі, поўнасцю рэалізаваць сябе і пражыць паўнацэннае жыццё».

Так напісаў аўтар гэтых радкоў, прайшоўшы двухдзённы дыянетычны семінар. Што ж гэта за штука такая, дыянетыка, і як гэта яна так можа ўплываць на чалавека?

Паводле слоў яе стваральніка, амерыканскага навукоўца Лафайета Рона Хабарда, дыянетыка — гэта прыгода. Гэта даследаванне тэра інкогніта чалавечага розуму. А яго кніга «Дыянетыка: сучасная навука душэўнага здароўя» — міжнародны бестселер, прададзены 15-мільённым тыражом на 22 мовах свету, стала найбольш важным калі-кольвечы зробленым прарывам у галіне чалавечай свядомасці.

У свой час сусветна вядомы матэматык Альберт Эйнштэйн зрабіў незвычайную заяву: «Мы выкарыстоўваем толькі 10 працэнтаў нашых разумовых здольнасцей». Аднак ён не мог нічога сказаць наконт таго, як задзейнічаць патэнцыял нашага мозгу, што застаецца нявыкарыстаным. Лафайет Рон Хабард у сваіх навуковых даследаваннях не толькі пацвердзіў адкрыццё вялікага матэматыка, але і распрацаваў сістэму прыёмаў, з дапамогай якіх можна абудзіць і ўключыць у работу частку чалавечага розуму, што застаецца драмаць.

Лафайет Рон Хабард, які нарадзіўся ў 1911 годзе і вядомы як пісьменнік прыгодніцкага і навукова-фантастычнага жанру, прысвяціў сваё жыццё гуманітарным даследаванням. Яго работы ў галіне адукацыі, мастацтва, дэтаксіфікацыі, радыяцыі, кіравання бізнесам разышліся па ўсім свеце мільённымі тыражамі і зрабілі іх аўтара адным з найбольш прызнаных і шырокачытальных у цяперашні час. Хабард вывучаў таксама інжынерную і атамную фізіку і менавіта тады ён пачаў свае першыя эксперыменты ў галіне структуры і функцыянальнай дзейнасці чалавечай свядомасці. Дзякуючы яго назіранням, зробленым падчас падарожжаў па ўсім свеце, вопыту, набытаму падчас другой сусветнай вайны, і іншым даследаванням выданая 9 мая 1950 года «Дыянетыка» адразу ж трапіла ў спіс бестселераў газеты «Нью-Йорк таймс» і заставалася там на працягу доўгага часу. Ужо к канцу года ў ЗША налічвалася каля 750 гуртоў, што практыкавалі «навуку душэўнага здароўя» Хабарда. Цяпер гэтую сістэму псіхалагічнага аздараўлення скарыстоўваюць мільёны людзей і яна прымяняецца на многіх буйных прадпрыемствах, такіх, як «Джэнерал Мотарс», «Вольва», і многіх іншых.

У чым жа сакрэт такой папулярнасці гэтага аздараўленчага метаду? Ды ў тым, што ён па прастаце і эфектыўнасці не мае сабе роўных. У тым, што чалавек, які ў дасканаласці вывучыў дыянетыку, можа не толькі сам стаць вясёлым, жыццярадасным, аптымістам, але і здолее памагчы ў гэтай справе свайму блізкаму. І ніякіх асаблівых мудрагелістасцей для гэтага не спатрэбіцца.

Як устанавіў Хабард, усе нашы беды і праблемы крыюцца ў нашай памяці, што запісвае абсалютна ўсю інфармацыю, якая паступае да нас з навакольнага асяроддзя.

Пайшоўшы затым у глыбіні нашай падсвядомасці, яна па-за воляй чалавека ўплывае адтуль на яго душэўны стан і настрой. А з-за таго, што інфармацыя паступае як станоўчая, так і адмоўная, то і ўплыў яна аказвае на нас адпаведны. Сістэма Хабарда дазваляе з дапамогай пэўных прыёмаў выцягнуць непажаданую інфармацыю з нашага банка памяці і нейтралізаваць яе, пасля чаго яна робіцца абсалютна бясшкоднай. Чалавек пасля гэтага набывае душэўнае здароўе, у яго паляпшаецца памяць, узмацняецца інтэлект, паніжаецца схільнасць да хвароб і стрэсаў.

Вось што гаворыць з гэтай прычыны англійская «Энцыклапедыя натуральнай медыцыны»: «З дапамогай дыянетыкі самасвядомасць чалавека ўзрастае без выкарыстання наркотыкаў, гіпнозу або іншых фізічных сродкаў, і ён сам аказваецца здольны знайсці першапрычыну сваіх праблем».

Пры рэгулярных занятках дыянетыкай жыццё задушанага стрэсамі чалавека, якое здавалася яму раней аднастайным, будзённым і малацікавым, робіцца яркім, насычаным і змястоўным, ператвараючыся ў захапляючае падарожжа.

Нядаўна ў Мінску створан Беларускі цэнтр дыянетыкі. Звязацца з ім можна па тэлефоне 55-62-94.

**Аляксандр ДЫНІКАЎ.**

# А ЖЫВАЯ ВАДА ЁСЦЬ

Хто з нас не чытаў у казках пра жывую і мёртвую ваду? Але даследаванні навукоўцаў даводзяць, што яна — зусім не выдумкі казачнікаў, а рэч вельмі рэальная. Праўда, у даследаваннях фігурыруе «электрахімічна актываваная вада» — каталіт і аналіт. Каталіт з-за яго стымулюючых уласцівасцей атрымаў найменне «жывой» вады, а аналіт з-за яго інгібіруючых уласцівасцей — «мёртвай». На спосабы атрымання такіх вадкасцей ужо выдадзена 300 аўтарскіх пасведчанняў і 167 замежных патэнтаў. Актыўна займаюцца гэтай праблемай томскія вучоныя з Дзяржуніверсітэта і Фізіка-тэхнічнага інстытута.

Вялікія магчымасці практычнага прымянення «жывой» вады. Атрыманне стымулятара вызначаецца прастатой і таннасцю. А сфера прымянення іх проста найшырэйшая — ад сельскай гаспадаркі да медыцыны.

**«Навука ў Сібіры», сакавік 1994 г.**

*З публікацый даўнейшых і не вельмі*

# Не усё — даброты

*Больш палавіны імпартаваных у Расію спіртных напіткаў, мясных прадуктаў і масла — нізкай якасці. Паводле вынікаў праверак Дзяржгандальінспекцыі Камітэта РФ па гандлю 71 працэнт імпартных лікёра-гарэлачных вырабаў (праславуты «Ройял», «Распуцін», «Водка 45» са Скандынавіі, каньякі «Дэрбент», «Белы бусел», «Каспій» і інш.), 4 працэнты маслатлушчавай прадукцыі, амаль 60 працэнтаў мясных і каўбасных вырабаў, 45 — кавы, 44 — гарбаты не адпавядаюць мінімальным нормам якасці. У актах праверак сярод пастаўшчыкоў няякаснай прадукцыі часцей за ўсё фігурыруюць фірмы Кітая, Польшчы, Турцыі, Італіі, В'етнама, Паўднёвай Карэі, Бельгіі, Германіі і некаторых краін СНД.*

*Асаблівыя нараканні — да якасці імпартных мясных прадуктаў. Літаральна гэтымі днямі выяўлена, што пастаўленыя аргенцінскай кампаніяй 4,2 тысячы тон мяса курэй зроблены яшчэ 7—8 гадоў назад у еўрапейскіх краінах, Германія паставіла зачумленую свініну, Вялікабрытанія — заражаную ялавічыну. Толькі ў лістападзе 1993 г. у Маскве зарэгістравалі два ачагі батулізму, абодва — ад кансерваў італьянскай вытворчасці.*

**(«Российские вести» № 59, 1994 г.)**

# Знайсці годны знак

*Той факт, што касмічная аўтаматычная станцыя ЗША «Вояджэр-2» працуе 12 гадоў і дагэтуль здзіўляе свет сваімі адкрыццямі, маюцца на ўвазе апошнія фотаздымкі паверхні планеты Нептун і яе спадарожнікаў, не павінен прайсці міма ўвагі навуковай грамадскасці нашай краіны.*

*Мы не павінны паказваць фальшывай раўнадушнасці, як гэта было зроблена ў перыяд першай пасадкі чалавека на Месяц. Гэтае дасягненне належыць не адно амерыканцам, але і ўсяму свету. Неабходна публічна знайсці такія словы або ўзнагароды, каб свет бачыў наша шчырае захапленне канструктарамі і тэхнолагамі, якія забяспечылі высокую эфектыўнасць і надзейнасць выканання праекта. Калі ўрад не можа ў сілу нейкіх прычын, дык няхай Акадэмія навук або наш касмічны штаб адліюць спецыяльныя медалі і запросяць гэтых людзей у нашу краіну для ўручэння.*

**(«Правда», 5 снежня 1989 г.)**

*ШТО? ДЗЕ? КАЛІ?*

# Да сустрэчы восенню ў Маскве

У канцы мая ў Інстытуце мовазнаўства імя Я. Коласа АНБ прайшла нарада Міжнароднай камісіі і рабочай групы «Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа» (пра гэту фундаментальную лінгвістычную працу па геаграфіі славянскіх моў і дыялектаў чытайце ў «Навінах АНБ» за 3 чэрвеня г.г.). Для ўдзелу ў ёй у Мінск прыехалі вучоныя С. Вёльке, Х. Енч і Р. Лётч (Германія), Б. Відаэскі і З. Тапалінска (Македонія); Я. Басара, Х. Басара, Х. Кавальска, М. Муцова, Я. Святкоўскі і Б. Фалінска (Польшча); Л. Калнынь, Т. Вендзіна, Л. Вялкіна і У. Пыхаў (Расія); П. Жыга і А. Ферэнчыкава (Славакія); Ф. Бенедік (Славенія); П. Грыцэнка і Я. Закрэўская (Украіна); Б. Фінка (Харватыя) і К. Фіц (Чэхія).

Аб тым, што адбывалася на гэтай нарадзе і якія вынікі яна прынесла, мы папрасілі расказаць вядучага навуковага супрацоўніка Інстытута мовазнаўства кандыдата філалагічных навук А. Крывіцкага:

— Адкрыў нараду дырэктар Інстытута мовазнаўства акадэмік А. Падлужны. Доктар філалагічных навук Г. Цыхун ад беларускага камітэта славістаў павітаў нашых гасцей і пажадаў усім навукоўцам поспехаў. Далейшая праца праходзіла па секцыях.

Лексічная секцыя займалася ў асноўным практычнымі пытаннямі тамоў лексіка-словаўтваральнай серыі атласа, стварэннем якіх заняты цяпер аўтарскі калектыў гэтай секцыі. Дарэчы, ужо падрыхтаваны да выдання другі і трэці тамы картаў атласа (апошні створаны беларускай камісіяй і знаходзіцца ўжо на картфабрыцы). На секцыі слухаліся паведамленні вучоных аб праблемах, звязаных з падрыхтоўкай картаў атласа і іх выданнем. Былі абмеркаваны таксама практычныя пытанні па аналізу матэрыялаў, картаграфаванню і ўкладанню чацвёртага, пятага, шостага і сёмага тамоў.

Фанетычная секцыя была занята абмеркаваннем уступнага артыкула і іншых матэрыялаў, а таксама лінгвістычнымі картамі абагульняючага зместу ў шостым томе фанетыка-прасадычнай серыі атласа, які рыхтуецца польскай нацыянальнай камісіяй. Аўтарскі калектыў працаваў над лінгвістычнымі картамі сёмага тома.

Падсекцыя абагульняючай транскрыпцыі займалася падрыхтоўкай спісаў абагульненых дыялектных назваў, неабходных для распрацоўкі легенд да лінгвістычных картаў па лексіцы і словаўтварэнню.

На заключным сумесным пасяджэнні вырашана правесці наступную нараду ў Маскве ў кастрычніку гэтага года. Былі вызначаны канкрэтныя заданні нацыянальным камісіям, якія трэба будзе ім выканаць да восені, абмеркаваны некаторыя пытанні арганізацыі працы Міжнароднай камісіі АЛА у бліжэйшыя гады. Завяршыў нараду старшыня Беларускага камітэта славістаў акадэмік І. Навуменка, які пажадаў усім прысутным поспехаў і плёну ў далейшай працы.

**Алесь БІЦАРУК.**

# НАВУК У ГАДЫ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ

рыкі акадэмікі АН БССР У. М. Перцаў, В. І. Пічэта, эканаміст акадэмік АН БССР У. М. Лубяка, літаратуразнаўцы В. І. Агіевіч, Л. А. Баўдзей, Л. І. Фіглоўская і іншыя.

Праца вучоных АН БССР у савецкім тыле атрымала высокую ацэнку Камуністычнай партыі і Савецкага ўрада. У студзені 1944 г. вялікая група беларускіх вучоных была ўдастоена дзяржаўных узнагарод. Ордэнамі Леніна былі адзначаны акадэмікі АН БССР М. М. Нікольскі, У. М. Перцаў, ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга — акадэмікі АН БССР Ц. М. Годнеў, А. Р. Жэбрак, А. К. Кедраў-Зіхман, В. А. Ляонаў, А. Я. Пракапчук, члены-карэспандэнты АН БССР Д. М. Голуб, М. Ф. Ярмоленка, прафесар Т. П. Ломцаў.

Многія супрацоўнікі акадэміі, верныя патрыятычнаму доўгу, добраахвотна ўступілі ў рады дзеючай арміі. Сярод тых, хто пайшоў на фронт, было нямала кіраўнікоў устаноў АН БССР, дактароў і кандыдатаў навук: член-карэспандэнт АН БССР С. М. Мялкіх, дырэктар Інстытута літаратуры і мовы В. В. Барысенка, дырэктар Інстытута геалогіі А. М. Аўксенцьеў, вучоны сакратар Аддзялення грамадскіх навук І. В. Гутараў, прафесар Я. Р. Ракаў, кандыдат навук П. І. Бялькевіч, М. П. Булгакаў, Д. А. Дубкоў, С. М. Іваноў, А. І. Івіцкі, С. М. Малінін, М. Д. Несцяровіч. Усяго з акадэміі пайшло на фронт каля 100 супрацоўнікаў. Многія з іх, знаходзячыся ў Чырвонай Арміі, з поспехам выкарыстоўвалі веды і навыкі сваіх грамадзянскіх прафесій. Шэраг работнікаў акадэміі знаходзіўся ў арміі на палітычнай рабоце.

Беларуская інтэлігенцыя аказвала актыўнае супраціўленне гітлераўскім акупантам. Многія яе прадстаўнікі пайшлі ў партызанскія фарміраванні, удзельнічалі ў партыйным падполлі. Са зброяй у руках ваявалі ў радах народных мсціўцаў супрацоўнікі АН БССР М. У. Аляхновіч, Ю. І. Гаўрыленка, М. С. Касцюк, С. В. Маркевіч, М. Р. Матусевіч. У падполлі з акупантамі змагаліся супрацоўнікі АН БССР М. А. Дарожкін, А. А. Язубчык, М. С. Махнач, А. І. Скрыган, П. І. Фінкевіч і іншыя.

Некаторыя беларускія вучоныя, якія не здолелі эвакуіравацца з Мінска,— акадэмік М. М. Нікольскі, М. А. Прыляжаеў, член-карэспандэнт І. А. Вятохін, прафесар А. А. Краўцоў,— былі перапраўлены мінскімі падпольшчыкамі да партызан, а адтуль вывезены на самалётах у савецкі тыл.

Адстойваючы гонар і незалежнасць нашай Радзімы, палі смерцю храбрых дырэктар Інстытута сацыялістычнай гаспадаркі А. М. Урсулаў, намеснік дырэктара Інстытута хіміі С. Ф. Кузьмін, супрацоўнік гэтага ж інстытута П. Дз. Чугуноў, навуковыя супрацоўнікі Батанічнага саду А. І. Чарненкаў, М. П. Шаліма, супрацоўнікі Інстытута гісторыі І. Ф. Лочмель, А. К. Калечыц, глебазнаўца І. М. Лаўрык, літаратуразнаўца К. І. Гурскі.

Загінулі на часова акупіраванай тэрыторыі Беларусі: партызанка, супрацоўніца Інстытута біялогіі Л. І. Ярышка; падпольшчык, вучоны сакратар Інстытута гісторыі М. С. Махнач; філосаф акадэмік С. Я. Вальфсон, фалькларыст Л. С. Душман.

За гады «гаспадарання» акупанты нанеслі Беларусі вялікі ўрон. Каласальна пацярпела АН Беларусі. Як ужо адзначалася, да захопу ворагам Мінска з акадэміі практычна нічога не ўдалося вывезці. З першых дзён акупацыі гітлераўцы пачалі метадычна знішчаць маёмасць акадэміі, а частку яе вывезлі ў Германію, у тым ліку найбагацейшую акадэмічную бібліятэку. Былі спалены будынкі акадэміі. Агульны ўрон, нанесены ёй, вылічаўся ў суме 304 млн. рублёў.

Пасля рээвакуацыі ў Мінск кіраўніцтва АН БССР вырашала задачу ўзнаўлення сваёй матэрыяльна-тэхнічнай базы, папаўнення навуковымі кадрамі, узнаўлення і развіцця сеткі акадэмічных устаноў. Ужо да канца 1945 г. колькасць працуючых у АН БССР узрасла да 360 чалавек, былі адноўлены практычна ўсе існаваўшыя да вайны навуковыя ўстановы, створан шэраг новых.

Вялікую дапамогу ва ўзнаўленні матэрыяльна-тэхнічнай базы акадэміі аказалі навуковыя ўстановы краіны. У пошуку і вяртанні навуковага абсталявання і кніг, вывезеных фашысцкімі захопнікамі ў Германію, садзейнічалі воіны Чырвонай Арміі.

Пасляваенная навуковая дзейнасць АН БССР была накіравана на аднаўленне народнай гаспадаркі рэспублікі. Яно разглядалася не толькі як простае стварэнне таго, што было да вайны, а як працэс рэканструкцыі, які даваў бы магчымасць побач з дасягненнем даваеннага ўзроўню вытворчасці больш рацыянальна размясціць вытворчыя сілы, забяспечыць больш высокі тэхнічны ўзровень эканамічнай базы. Першая пасля вызвалення Беларусі сесія агульнага сходу АН БССР, якая адбылася ў Мінску ў красавіку 1945 г., цалкам была прысвечана аднаўленню народнай гаспадаркі рэспублікі.

Вучоныя Акадэміі навук Беларусі з гонарам вытрымалі выпрабаванні ваеннага часу, што выпалі на іх долю, і аддалі ўсе свае сілы і веды дзеля справы перамогі над ворагам. Самаадданая дзейнасць вучоных АН БССР у гады Вялікай Айчыннай вайны — адна з яскравых старонак гісторыі беларускай навукі. Яна дагэтуль служыць прыкладам вернасці свайму доўгу для новых пакаленняў вучоных.

**Мікалай ТОКАРАЎ, кандыдат гістарычных навук, Інстытут гісторыі АНБ.**

*Рэцэнзія*

# Першы блін камяком

У пачатку 1994 г. паступіў у продаж першы том «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі». Выданне такой працы — наспелая і актуальная справа. Яна павінна ўнесці вялікі ўклад ва ўзбагачэнне гістарычнай памяці народа, яго духоўнага жыцця. Я не падзяляю думкі аб тым, што за гады савецкай улады гісторыкі Беларусі зыходзілі толькі з «масквацэнтрычнай» тэорыі, што марксісцка-ленінскае разуменне гістарычнага развіцця беларусаў прынесла толькі шкоду, гістарычнае беспамяцтва і г. д.

Унушальныя сведкі дасягненняў гісторыкаў — 2-томная, а потым 5-томная «Гісторыя БССР», 4-томная «История рабочего класса БССР», 12-томная і іншыя энцыклапедыі (з удзелам гісторыкаў), дзесяткі манаграфій па археалогіі, феадальнаму і капіталістычнаму перыядах, сотні — па савецкаму часу і г. д. Гэта дае падставу канстатаваць: сцвярджэнні некаторых гісторыкаў, мякка кажучы, перабольшаны. Былі недахопы, памылковыя думкі. Але ў цэлым...

На ранейшых здабытках навукі грунтуецца і першы том «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі». Чытач знойдзе ў ім многа каштоўных канкрэтных звестак менавіта энцыклапедычнага характару. Але ёсць у ім многа і палітычна кан'юнктурнага. Прынцыповыя недахопы ў многім грунтуюцца на суб'ектывісцкай, ненавуковай канцэпцыі трох «дэ» дырэктара Інстытута гісторыі АНБ, члена-карэспандэнта АНБ Міхаіла Касцюка. Сутнасць гэтых трох «дэ» — дэідэалагізацыя, дэпартызацыя, дэпалітызацыя гісторыі Беларусі (гл.: М. П. Касцюк. Нацыянальная канцэпцыя гісторыі Беларусі. У кн. Беларусістыка. Незалежнасць Беларусі: актуальныя праблемы — шляхі іх вырашэння. Мн., 1993, с. 12). Не маю тут магчымасці паказаць надуманасць гэтай «канцэпцыі». Адзначу толькі, што гісторыя Беларусі павінна быць ідэалагізаванай, гэта значыць грунтавацца на заканамернасці ўзнікнення і развіцця беларускай ідэі, беларускасці, ідэалогіі нацыянальна-дзяржаўнага развіцця. Такім чынам, Міхаіл Касцюк мае на ўвазе ідэалогію «не ўвогуле», а менавіта марксісцка-ленінскую. Адкажу, што матэрыялістычна-дыялектычнай марксісцкай метадалогіяй навуковае асвятленне гісторыі Беларусі таксама немагчыма.

Прынцыповае, метадалагічна канцэптуальнае пытанне — адносіны да нацыянальна-культурнай спадчыны, як асобай цывілізацыі беларусаў, іх ідэалогіі нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва і жыцця, да суседніх цывілізацый і дзяржаў. Цяпер гэта пытанне атрымала вострае палітычнае гучанне: «адпаведныя сілы» пад сцягам Адраджэння разгарнулі шырокую кампанію крытыкі Расіі, яе каланіяльнай палітыкі на Беларусі і г. д. Навукова-гістарычнае абгрунтаванне такой палітыкі павінны даць «дэпалітызаваныя» гісторыкі. І ў першым томе «Энцыклапедыі» гэта ажыццёўлена даволі выразна.

Так, у савецкай гістарычнай навуцы зацвердзілася ідэалагічная «догма» КПСС аб увазе гісторыкаў да тых падзей і з'яў, якія «працавалі» на паразуменне паміж суседзямі, дружбу паміж народамі, мірныя адносіны паміж дзяржавамі. Не раздзьмувалі партакраты-гісторыкі тых «вугалькоў», якімі калісьці прыпякалі пяткі беларусам літоўцы, палякі, украінцы, рускія, ці беларусы — ім. Таму і працавалі згодна, сустракаліся з адкрытай душой, ганарыліся дружбай народаў СССР. Цяпер гісторыкі-дэмакраты (учарашнія партбілетнікі) зазванілі ў новыя званы, адлітыя з трох «дэ».

Адным з першых сігналаў распальвання міжнацыянальнай беларуска-рускай варожасці з'явілася бітва пад Оршай у 1514 г., дзе мы, беларусы, на чале з нашым беларускім князем Канстанцінам Астрожскім ушчэнт разграмілі маскоўскае войска, забілі 20, а мо і больш тысяч чалавек. І гэтым «новым падыходам», новай «дэпалітызаванай» метадалогіяй гісторыкі-«дэмакраты» ледзь не ўвялі ў зман Вярхоўны Савет рэспублікі і не зрабілі гэту дату святочнай для нараджэння сучаснай беларускай арміі. На самай справе, пад Оршай адбыўся бой, толькі бой паміж *авангардам* войска Маскоўскай дзяржавы і *атрадам* войска ВКЛ» (Вялікага княства Літоўскага). Не менш важна і другое. Жадаючыя запісаць гэту бітву залатымі літарамі ў аналы беларускай ваеннай гісторыі замоўчалі і замоўчваюць той факт, што род Астрожскіх — нашчадкі рода Рурыкавічаў. Дык што ж за радасць, што за свята з таго, калі «свой свайго пабіяху»?

Адным са здабыткаў савецкай беларускай гістарыяграфіі быў тэзіс аб уз'яднанні Беларусі з Расіяй у ходзе падзелаў Рэчы Паспалітай у 1772, 1793 і 1795 гг. Чаму ўз'яднанні? Таму, што раней, у 9 — пачатку 12 стагоддзя, беларускія землі былі часткай усходнеславянскай дзяржавы — Кіеўскай Русі. Потым быў перыяд феадальнай раздробненасці. З утварэннем у першай палавіне 13 ст. Вялікага княства Літоўскага нашы землі паступова сталі часткай літоўска-рускай (у значнай меры — беларускай) дзяржавы. У 1569 г. феадалы ВКЛ і Польшчы заключылі Люблінскую унію аб аб'яднанні дзвюх дзяржаў у федэратыўную Рэч Паспалітую. У канцы 18 ст. беларусы ўз'ядналіся з рускімі і ўкраінцамі. Цяпер яны зноў былі ў адной дзяржаве, але са сталіцай у Маскве. Акрамя агульнадзяржаўнага фактара, уз'яднанню трох усходнеславянскіх народаў садзейнічалі агульнасць праваслаўнай веры, блізкасць мовы, традыцый культурнага развіцця, эканамічных сувязей і іншыя фактары.

Навуковы вывад савецкіх гісторыкаў аб «уз'яднанні» не толькі аб'ектыўны і гістарычна праўдзівы. Ён скіраваны ў будучыню, на добрасуседскія адносіны.

Цяпер жа некаторыя гісторыкі, вызваліўшыся ад ідэалагічнага ўціску КПСС — КПБ, пачалі выводзіць з гістарычнай цемры злоснікаў беларускага народа. Перш за ўсё — Расію, рускі народ. У першым томе «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» мы чытаем: «Бясконцыя паходы рускіх князёў і цароў з канца 15 ст. скончыліся руска-польскай вайной 1654—1667 гг., калі загінула больш за палавіну насельніцтва Беларусі» (с. 392). Аўтары пішуць аб «інкарпарацыі беларускіх зямель царскай Расіяй» (с. 333), вызваленчым змаганні беларускага народа «з-пад каланіяльнага ўціску царскай Расіі» (с. 334), забароне беларускага друку (с. 346), аб «гвалтоўнай асіміляцыі беларускага этнасу ў форме паланізацыі ці русіфікацыі» (с. 445). Пасля паражэння паўстання 1863—1864 гг. «узмацнілася татальная русіфікацыя Беларусі» (с. 445), «пад выглядам барацьбы з паланізацыяй рэзка ўзмацнілася русіфікацыя краю... Было забаронена друкаванне беларускіх кніг лацінкай, што фактычна азначала поўную забарону беларускага друку» (с. 471) і г. д.

Не будзем гаварыць пра «бясконцыя паходы рускіх князёў і цароў» на Беларусь. Гісторыкі Расіі могуць таксама падлічыць «бясконцыя» паходы вялікіх князёў літоўскіх (беларускіх) і каралёў польскіх (з удзелам беларусаў) на рускія землі.

Пагаворым пра «русіфікацыю», якой у першым томе «Энцыклапедыі» шмат. Крыніцы сведчаць, што ў 7—9 ст. утварыліся племянныя саюзы ўсходніх славян: палян, драўлян, крывічоў, радзімічаў і інш. У 9—11 ст. склалася старажытнаруская народнасць (эпоха Кіеўскай Русі). На яе аснове ўзніклі ў 14—16 ст. беларуская, украінская і руская народнасці. Адметнай рысай усходнеславянскіх плямёнаў быў «язык словеньский». У Вялікім княстве Літоўскім, Рускім (беларускім) і Жамойцкім старабеларуская мова выконвала функцыі дзяржаўнай. Але з другой паловы 16 ст. намеціліся прынцыповыя змены. У 1550 годзе літоўскі гісторык Міхалон Літвін адкрыта заклікаў замяняць беларускую мову лацінню. У 1576 г. Аўгусцін Ратундас напісаў на лацінскай мове «Хроніку Літвы» і пераклаў на гэту мову Літоўскі статут. Беларуская мова стала выцясняцца з афіцыйнага ўжытку і навучання ў школах.

Стварэнне Рэчы Паспалітай і каталіцкая экспансія супраць праваслаўнай веры адкрылі дарогу польскай мове. Пачалася паланізацыя беларусаў. Беларуская шляхта адмовілася ад ідэі ўласнай дзяржаўнасці. У другой палове 17—18 ст. на Беларусі панавала польска-лацінскае кнігадрукаванне. У канцы 18 ст. большасць памешчыкаў-дваран, звыш 90 працэнтаў якіх былі католікамі, лічылі сябе палякамі. Навучанне дзяцей у школах амаль паўсюдна вялося на польскай мове. Такім чынам, працэс паланізацыі беларусаў набліжаўся да поўнага завяршэння. І толькі з-за адсутнасці ўсеахопнай сеткі школ у сельскай мясцовасці Рэчы Паспалітая не завяршыла гэты працэс, таму што сама, у выніку трох падзелаў перастала існаваць.

З такой этна-нацыянальнай спадчынай Беларусь уз'ядналася з Расіяй. Уз'яднанне зберагло нас як этнас, як нацыю і адкрыла гістарычную перспектыву нацыянальна-дзяржаўнага і культурнага будаўніцтва.

Што мусіў рабіць і што рабіў царызм, калі на Беларусі практычна не было нацыянальна свядомых сіл, якія ўзначалілі б імкненні беларускага народа да той жа культурна-нацыянальнай аўтаноміі, не кажучы ўжо аб аўтаноміі дзяржаўнай? Царызм, натуральна, рабіў сваю справу. Узяўшы пад высокую царскую руку новых падданых, ён ураўняў іх у правах са сваімі падданымі: шляхта атрымала свае панскія прывілеі, сялянства сваю долю — расійскае прыгоннае права. І тут русіфікацыі не было.

**Пётр ПЕТРЫКАЎ,**
**член-карэспандэнт АНБ.**

(Заканчэнне будзе)

*МАЛАВЯДОМАЕ*

## СТАЛІН II

*У «вялікага правадыра» — Іосіфа Сталіна быў двайнік. Пра гэта паведаміла канадская газета «Дэ газет».*

...Верасень 1935 года. Вечарам каля дома Яўсея Лубіцкага ў Вінніцы, дзе ён жыў, спыніўся чорны аўтамабіль.

Праз два дні ён апынуўся на камфартабельнай падмаскоўнай віле, дзе з людзей знаходзіліся толькі тры служачыя, але яны ні на якія пытанні не адказвалі.

Аднойчы на вілу прыехала група краўцоў, цырульнікаў, грымёраў, якія без тлумачэнняў пачалі працаваць з Лубіцкім.

— Пасля таго, як яны стварылі маё новае аблічча, усе яны былі хутка забіты,— расказваў пазней Яўсей Лубіцкі.

Была знішчана і яго сям'я. Але аб гэтым ён даведаўся толькі пасля смерці Сталіна.

Уваходжанне ў вобраз працягвалася паўгода. Пасля гэтага быў дзень сапраўднага экзамену. На вілу прыехаў Сталін, жадаючы бліжэй паглядзець на Лубіцкага. «Дзядуля Сталін» застаўся задаволены. Прапанаваў Лубіцкаму каньяку і выпіў з ім разам. Так Сталін падзякаваў невядомаму бухгалтару з Вінніцы за тое, што той разумеў важнасць даручанага яму ўрадавага задання.

У хуткім часе Лубіцкі ўпершыню сыграў сваю ролю — з'явіўся як Сталін на сустрэчу з шатландскімі гарнякамі.

Сталін любіў жартаваць, прымушаў Лубіцкага з'яўляцца ў яго вобразе, калі прыходзіў Яжоў з чарговым рапартам.

Аднак нічога нельга параўнаць з пачуццём, якое агортвала Я. Лубіцкага, калі ён паяўляўся перад масамі на трыбуне Маўзалея 7 лістапада — у гадавіну рэвалюцыі, або 1 Мая.

За год да смерці Сталіна Лубіцкі быў арыштаваны і адпраўлены ў працоўны лагер на Поўнач. Пасля 8-месячнага зняволення ў лагеры ў дзень, калі яго павінны былі саслаць на востраў у Белым моры, прыйшла вестка аб смерці Сталіна. Лубіцкага вызвалілі. Ён пайшоў на пенсію. Аднак давялося падпісаць абавязацельства, што ён будзе жыць у Сярэдняй Азіі і нікому не будзе расказваць сваю гісторыю. Парушыў ён гэта абавязацельства толькі аднойчы. Я пакляўся, піша аўтар матэрыялу ў «Дэ газет»,— што нікому не раскажу гэту гісторыю, пакуль ён будзе жывы. Цяпер Лубіцкі памёр.

## Яму не да Джорджа Сораса

ВЯДОМЫ АМЕРЫКАНСКІ МІЛЬЯРДЭР Джордж Сорас наведаў Мінск. З нагоды свайго візіту ў Беларусь ён наладзіў для журналістаў прэс-канферэнцыю. Прысутным рэпарцёрам паведаміў, што да прыезду ў Мінск ён пабываў у Расіі, на Украіне і ў Грузіі, дзе сустракаўся з прэзідэнтамі гэтых краін. «Я планаваў сустрэцца і з кіраўніцтвам Беларусі,— заявіў Джордж Сорас,— але спадар прэм'ер-міністр не знайшоў для гэтага часу». І ўвогуле ні з кім з афіцыйных асоб дзяржавы госцю з Амерыкі пагаварыць не давялося. Пан Сорас падкрэсліў, што «Фондам Сораса — Беларусь» уводзяцца новыя праграмы падтрымкі навукі, адукацыі, для рэалізацыі якіх няма патрэбы прасіць дапамогі ва ўрада.

Прыгадаем, што «Фонд Сораса — Беларусь» быў створаны паўтара гады таму. За гэты час яго намаганнямі былі адкрыты Інстытут прыватызацыі і менеджменту, «Мас-Медыя Цэнтр», пачалі рэалізоўвацца праграмы: «Эдмунд Маскі» — навучанне ва універсітэтах ЗША, «Трансфармацыя гуманітарных навук», «Стажыроўкі і паездкі», «Выдавецтва». Працуе таксама і Міжнародны навуковы фонд, які фінансуе зноў жа Дж. Сорас. Ён з'яўляецца аўтаномнай ад «Фонду Сораса—Беларусь» структурай, аказвае тэрміновую індывідуальную дапамогу вучоным у сферы фундаментальных навук. Дарэчы, на асветніцкія і навуковыя праграмы, што ажыццяўляліся на Беларусі, Джорджам Сорасам ужо патрачана звыш аднаго мільёна семісот тысяч долараў.

**ВАКАНСІІ**

**АНК «Институт тепло- и массообмена им. А. В. Лыкова» АН Беларуси объявляет конкурс на замещение вакантных должностей — старших научных сотрудников по специальностям «Теплофизика и молекулярная физика» (1), «Теоретические основы теплотехники» (1), «Применение вычислительной техники, математического моделирования и математических методов в научных исследованиях» (1); научного сотрудника по специальности «Теплофизика и молекулярная физика» (1).**

**Срок конкурса — 1 месяц со дня опубликования объявления.**

**Справки по тел. 395-491.**

## Ці стануць беларускія законы аб навуцы лепшымі?

ПРАДСТАЎНІКІ КАМІСІІ па навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу Вярхоўнага Савета Беларусі па запрашэнню Лодзінскага універсітэта і Цэнтра даследавання і вывучэння Усходу пабывалі ў Польшчы. На сустрэчы з сенатарам сейма З. Яноўскай ішла размова аб практыцы работы парламентарыяў абедзвюх краін над заканадаўчымі актамі, прызначанымі рэгуляваць навуковую дзейнасць; праблемах фінансавання навукова-тэхнічнай сферы; праблемах развіцця і дзяржаўнай падтрымкі малога навукова-інавацыйнага бізнесу.

Арганізацыі парадку фінансавання навуковых даследаванняў і навучальнага працэсу, практыцы прымянення законаў Польшчы аб вучоных званнях і ступенях, аб універсітэтах і навуковых установах была прысвечана гутарка беларускай дэлегацыі з віцэ-дырэктарам дэпартамента навукі і вышэйшай адукацыі Е. Лепехам. У ходзе візіту прадстаўнікі камісіі пабывалі таксама ў Лодзінскім аддзяленні Польскай Акадэміі навук, іншых навуковых і навучальных установах.

Аляксандр ЮРЫН.

*«НАВІНЫ АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСІ»*

**Штотыднёвая газета Акадэміі навук Беларусі**

**Рэдактар Аля Шымановіч**

**Адрас рэдакцыі: 220072, г. Мінск, вул. Ф. Скарыны, 1, пакоі 309а, 309 б. Тэлефоны: рэдактара — 39-46-12, карэспандэнтаў — 39-54-51**
**Мінская фабрыка «Чырвоная зорка» МПВА імя Я. Коласа**

**Падпісана да друку 15.06.94 г.**
**Зак. 1034**
**Тыраж 1000 экз.**

**Індэкс 64123**
**Пры перадруку просьба спасылацца на «Навіны АНБ»**
**Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе**
**Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не раздзяляючы пункту гледжання аўтара.**

**Аўтары апублікаваных у газеце матэрыялаў нясуць адказнасць за іх дакладнасць і гарантуюць адсутнасць звестак, якія складаюць дзяржаўную тайну.**